 Народная газета

## *Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб ахове навакольнага асяроддзя

Ахова навакольнага асяроддзя, рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, забеспячэнне экалагічнай бяспекі чалавека — неад'емная ўмова ўстойлівага эканамічнага і сацыяльнага развіцця дзяржавы. Гэты Закон закліканы забяспечыць прававыя асновы такога шляху развіцця Рэспублікі Беларусь, абарону правоў чалавека на спрыяльнае для яго жыцця і здароўя навакольнае асяроддзе, вызначыць прававыя і эканамічныя асновы аховы навакольнага асяроддзя ў інтарэсах цяперашняга і будучых пакаленняў людзей.

### РАЗДЗЕЛ I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Задачы заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб ахове навакольнага асяроддзя**

Задачамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб ахове навакольнага асяроддзя з'яўляюцца:

забеспячэнне бяспечнага для жыцця і здароўя людзей стану навакольнага асяроддзя;

рэгуляванне адносін у галіне аховы, выкарыстання і ўзнаўлення прыродных рэсурсаў;

захаванне прыродных рэсурсаў, генетычнага фонду жывой прыроды, ахова прыродных багаццяў, прыроднага асяроддзя, ландшафтаў і іншых прыродных комплексаў.

**Артыкул 2. Асноўныя прынцыпы аховы навакольнага асяроддзя**

Пры планаванні і ажыццяўленні дзейнасці, якая аказвае ўплыў на стан навакольнага асяроддзя, Саветы народных дэпутатаў, органы выканаўчай улады, юрыдычныя і фізічныя асобы, замежныя інвестары абавязаны кіравацца наступнымі асноўнымі прынцыпамі:

прыярытэтам аховы жыцця і здароўя чалавека ў параўнанні з іншымі мэтамі прыродакарыстання, забеспячэння правоў грамадзян на спрыяльнае для жыцця, працы і адпачынку навакольнае асяроддзе;

выкананнем патрабаванняў заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя;

навукова абгрунтаваным спалучэннем экалагічных і эканамічных інтарэсаў грамадства;

спалучэннем нацыянальных і міжнародных інтарэсаў у галіне навакольнага асяроддзя;

рацыянальным выкарыстаннем прыродных рэсурсаў з улікам магчымасцей навакольнага асяроддзя, неабходнасці ўзнаўлення прыродных рэсурсаў і недапушчэння незварачальных вынікаў для навакольнага асяроддзя і здароўя чалавека;

галоснасцю ў рабоце, цесняй сувяззю з грамадскімі аб'яднаннямі і насельніцтвам пры вырашэнні прыродаахоўных задач.

**Артыкул 3. Аб'екты прыроды, якія падлягаюць ахове**

Ахове падлягаюць як уцягнутыя ў гаспадарчы абарот, так і не выкарыстоўваемыя непасрэдна або ў дадзены перыяд віды прыродных рэсурсаў, да якіх адносяцца: кліматычныя рэсурсы, атмасфера, уключаючы азонавы слой, зямля, яе нетры і глебы, воды (паверхневыя, падземныя і глебавая вільгаць), раслінны і жывёльны свет у іх відавой разнастайнасці ва ўсіх сферах пражывання і росту, тыповыя і рэдкія ландшафты, а таксама іншыя прыродныя аб'екты як кампаненты экалагічных сістэм і біясферы.

**Артыкул 4. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб ахове навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў**

Адносіны ў галіне аховы навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь рэгулююцца гэтым Законам, іншымі нарматыўнымі актамі Рэспублікі Беларусь.

### РАЗДЗЕЛ II. ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ГРАМАДЗЯН У ГАЛІНЕ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 5. Правы грамадзян у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь і іншыя асобы, якія пражываюць на яе тэрыторыі, маюць права:

ствараць грамадскія аб'яднанні і фонды па ахове навакольнага асяроддзя і кантролю за яго станам;

патрабаваць і атрымліваць поўную і дакладную інфармацыю аб стане навакольнага асяроддзя і мерах па яго ахове;

уносіць прапановы аб забароне размяшчэння, спыненні праектавання, будаўніцтва, рэканструкцыі, эксплуатацыі аб'ектаў, якія аказваюць адмоўны ўплыў на навакольнае асяроддзе і здароўе чалавека;

прад'яўляць у суд іскі аб пакрыцці шкоды здароўю і маёмасці грамадзян, маёмасці юрыдычных асоб, прычыненай парушэннямі прыродаахоўнага заканадаўства або стаўшай вынікам звязаных з такімі парушэннямі экалагічных катастроф.

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь могуць быць вызначаны і іншыя правы грамадзян па ахове навакольнага асяроддзя.

**Артыкул 6. Абавязкі грамадзян у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь і іншыя асобы, якія пражываюць на яе тэрыторыі, абавязаны: берагчы і ахоўваць прыроду, рацыянальна выкарыстоўваць яе багацці, выконваць патрабаванні прыродаахоўнага заканадаўства, павышаць экалагічную культуру, садзейнічаць экалагічнаму выхаванню падрастаючага пакалення, выконваць іншыя абавязкі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Правы грамадскіх аб'яднанняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Грамадскія экалагічныя аб'яднанні, іншыя грамадскія аб'яднанні Рэспублікі Беларусь, якія ажыццяўляюць экалагічныя функцыі, маюць права:

распрацоўваць і прапагандаваць свае экалагічныя праграмы, абараняць правы і інтарэсы насельніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, садзейнічаць павышэнню экалагічнай культуры насельніцтва, прыцягваць на добраахвотных пачатках грамадзян да актыўнай прыродаахоўнай дзейнасці;

за кошт сваіх сродкаў і добраахвотнага працоўнага ўдзелу членаў арганізацый выконваць работы па ахове і ўзнаўленні прыродных рэсурсаў, захаванню і паляпшэнню навакольнага асяроддзя, аказваць садзейнічанне дзяржаўным органам па ахове прыроды ў барацьбе з парушэннямі прыродаахоўнага заканадаўства, ствараць грамадскія фонды па ахове навакольнага асяроддзя і расходаваць іх на правядзенне экалагічных мерапрыемстваў;

прымаць удзел у правядзенні дзяржаўнай экалагічнай экспертызы па размяшчэнню, праектаванню, будаўніцтву, уводу ў эксплуатацыю экалагічна небяспечных аб'ектаў, праводзіць грамадскую экалагічную экспертызу, уносіць прапановы, патрабаваць у судовым парадку адмены рашэнняў па размяшчэнню, будаўніцтву, эксплуатацыі экалагічна небяспечных аб'ектаў, абмежаванню, прыпыненню, спыненню, перапрафіліраванню іх дзейнасці;

прад'яўляць у суд іскі аб пакрыцці шкоды здароўю, маёмасці грамадзян і грамадскіх аб'яднанняў, прычыненай парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства.

**Артыкул 8. Гарантыі правоў грамадзян на здаровае і спрыяльнае для жыцця навакольнае асяроддзе**

Правы грамадзян Рэспублікі Беларусь і іншых асоб, якія пражываюць на яе тэрыторыі, на здаровае і спрыяльнае для жыцця і здароўя навакольнае асяроддзе забяспечваюцца:

планаваннем і нарміраваннем якасці навакольнага асяроддзя, мерамі па прадухіленню экалагічна шкоднай дзейнасці і аздараўленню навакольнага асяроддзя, папярэджванню і ліквідацыі вынікаў аварый, катастроф, стыхійных бедстваў;

дзяржаўным кантролем за станам навакольнага асяроддзя і выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства, прыцягненнем да адказнасці асоб, вінаватых у парушэнні патрабаванняў забеспячэння экалагічнай бяспекі насельніцтва;

страхаваннем грамадзян, утварэннем дзяржаўных, грамадскіх і іншых фондаў дапамогі асобам, пацярпеўшым ад забруджання навакольнага асяроддзя;

пакрыццём у добраахвотным і судовым парадку шкоды, прычыненай здароўю і маёмасці грамадзян у выніку забруджання навакольнага асяроддзя і іншых шкодных уздзеянняў на яго, у тым ліку вынікаў аварый і катастроф;

прыцягненнем да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь асоб, якія наўмысна скажаюць або ўтойваюць інфармацыю аб стане навакольнага асяроддзя, перашкаджаюць выкананню грамадзянамі і грамадскімі аб'яднаннямі іх правоў, што вынікаюць з гэтага Закона, іншымі гарантыямі, прадугледжанымі гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

### РАЗДЗЕЛ III. ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ І КІРАВАННЯ Ў ГАЛІНЕ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 9. Кампетэнцыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у галіне аховы навакольнага асяроддзя:

вызначае дзяржаўную і міждзяржаўную экалагічную палітыку;

ажыццяўляе міждзяржаўнае супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя;

распрацоўвае і прымае заканадаўчыя акты аб ахове навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь;

вызначае парадак арганізацыі і дзейнасці органаў дзяржаўнай улады і кіравання ў галіне выкарыстання і аховы прыродных рэсурсаў, аховы навакольнага асяроддзя;

разглядае і зацвярджае дзяржаўную экалагічную праграму Рэспублікі Беларусь;

аб'яўляе тэрыторыі зонамі экалагічнага бедства;

зацвярджае межы аб'ектаў прыродна-запаведнага фонду рэспубліканскага значэння і санкцыяніруе іх змяненне;

разглядае іншыя пытанні ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і прыродакарыстання.

**Артыкул 10. Кампетэнцыя мясцовых Саветаў народных дэпутатаў у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Да ведання мясцовых Саветаў народных дэпутатаў у галіне аховы навакольнага асяроддзя адносяцца:

арганізацыя планавання аховы навакольнага асяроддзя, фінансаванне і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне экалагічных праграм;

каардынацыя дзейнасці экалагічных службаў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый;

прыняцце рашэнняў аб забароне дзейнасці юрыдычных асоб і іх асобных вытворчасцей, цэхаў, участкаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі мясцовага Савета, або аб пазбаўленні гэтых юрыдычных асоб і іх вытворчасцей права карыстання мясцовымі прыроднымі рэсурсамі ў выпадках забруджання навакольнага асяроддзя, нерацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў і іншых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, санітарных норм і правіл;

арганізацыя экалагічнай асветы, адукацыі і выхавання грамадзян;

забеспячэнне насельніцтва неабходнай экалагічнай інфармацыяй;

вырашэнне іншых пытанняў аховы навакольнага асяроддзя, аднесеных да кампетэнцыі органаў мясцовага самакіравання заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў могуць дэлегаваць частку сваіх паўнамоцтваў у галіне аховы навакольнага асяроддзя органам Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі.

**Артыкул 11. Кампетэнцыя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне аховы навакольнага асяроддзя:

ажыццяўляе рэалізацыю экалагічнай палітыкі, вызначанай Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь;

ажыццяўляе меры па ахове і навукова абгрунтаванаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў і паляпшэнню навакольнага асяроддзя;

забяспечвае распрацоўку і рэалізацыю дзяржаўнай экалагічнай праграмы Рэспублікі Беларусь;

каардынуе дзейнасць міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, іншых падведамных яму органаў, якія займаюцца аховай навакольнага асяроддзя;

стварае рэспубліканскі пазабюджэтны фонд аховы прыроды;

зацвярджае парадак распрацоўкі экалагічных нарматываў, лімітаў выкарыстання прыродных рэсурсаў, выкідаў і скідаў забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе і размяшчэння адходаў;

вызначае парадак уліку, ацэнкі прыродных рэсурсаў, а таксама парадак вядзення кадастраў прыродных рэсурсаў;

аб'яўляе ў выпадку неабходнасці ўчасткі тэрыторыі зонай надзвычайнай экалагічнай сітуацыі;

зацвярджае пералік асабліва каштоўных прыродных рэсурсаў і аб'ектаў навакольнага асяроддзя;

арганізуе сістэму экалагічнага выхавання і адукацыі грамадзян;

прымае рашэнні аб спыненні дзейнасці або перапрафіліраванні экалагічна шкодных аб'ектаў рэспубліканскага значэння;

ажыццяўляе міжурадавае супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя;

рэгулюе іншыя пытанні аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

**Артыкул 12. Кампетэнцыя Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі і яго падраздзяленняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Да кампетэнцыі Дзяржаўнага камітэта па экалогіі і яго падраздзяленняў адносіцца:

кантроль за дзейнасцю міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый у галіне аховы навакольнага асяроддзя;

правядзенне адзінай навукова-тэхнічнай палітыкі па пытаннях аховы навакольнага асяроддзя і выкарыстання прыродных рэсурсаў;

дзяржаўны кантроль за выкананнем норм экалагічнай бяспекі, нараўне з іншымі спецыяльна ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі кантроль за выкарыстаннем і аховай нетраў, паверхневых і падземных вод, атмасфернага паветра, расліннага і жывёльнага свету;

арганізацыя маніторынгу прыроднага асяроддзя;

зацвярджэнне сумесна з органамі санітарнага нагляду нарматываў якасці навакольнага асяроддзя, удзел у распрацоўцы стандартаў па рэгуляванню выкарыстання прыродных рэсурсаў і ахове навакольнага асяроддзя ад забруджвання, спусташэння і іншых шкодных уздзеянняў;

ажыццяўленне дзяржаўнай экалагічнай экспертызы;

атрыманне бязвыплатна ад міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый інфармацыі, неабходнай для выканання ўскладзеных на яго задач;

выдача і ануляванне дазволаў на захаванне (складзіраванне) прамысловых, камунальна-бытавых і іншых адходаў, выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе, на спецыяльнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

абмежаванне або прыпыненне дзейнасці прадпрыемстаў і аб'ектаў незалежна ад формы ўласнасці, калі іх эксплуатацыя ажыццяўляецца з парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства;

прад'яўленне іскаў аб пакрыцці шкоды, прычыненай у выніку парушэння прыродаахоўнага заканадаўства;

распрацоўка дзяржаўных экалагічных праграм;

складанне пратаколаў і разгляд спраў аб правапарушэннях у галіне аховы навакольнага асяроддзя і выкарыстання прыродных рэсурсаў у межах правоў, прадастаўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

улік і ацэнка прыродных рэсурсаў, вядзенне дзяржаўных кадастраў водных рэсурсаў, тарфянога фонду, жывёльнага і расліннага свету;

вядзенне Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь;

забеспячэнне насельніцтва неабходнай экалагічнай інфармацыяй;

арганізацыя прапаганды экалагічных ведаў сярод насельніцтва;

ажыццяўленне на адпаведным узроўні міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, вывучэнне, абагульненне і распаўсюджванне міжнароднага вопыту, кантроль за выкананнем абавязацельстваў Рэспублікі Беларусь па міжнародных пагадненнях у галіне аховы навакольнага асяроддзя.

Рашэнні Дзяржаўнага камітэта па экалогіі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя па пытаннях, аднесеных да яго кампетэнцыі, абавязковыя для ўсіх юрыдычных і фізічных асоб і могуць быць абскарджаны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Артыкул 13. Кампетэнцыя іншых спецыяльна ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Кампетэнцыя іншых спецыяльна на тое ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў па ахове навакольнага асяроддзя вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

### РАЗДЗЕЛ IV. ЭКАНАМІЧНЫ МЕХАНІЗМ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 14. Эканамічны механізм забеспячэння аховы навакольнага асяроддзя**

Эканамічны механізм аховы навакольнага асяроддзя ўключае ў сябе:

планаванне і фінансаванне прыродаахоўных мерапрыемстваў;

ільготнае крэдытаванне і падаткаабкладанне прыродаахоўнай дзейнасці;

вызначэнне лімітаў на карыстанне прыроднымі рэсурсамі, размяшчэнне адходаў, дапушчальных выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе;

збіранне падатку і іншых плацяжоў за выкарыстанне прыродных рэсурсаў, выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе;

збіранне платы за размяшчэнне адходаў і іншыя віды шкоднага ўздзеяння на навкольнае асяроддзе;

пакрыццё ва ўстаноўленым парадку шкоды, прычыненай навакольнаму асяроддзю і здароўю насельніцтва.

Эканамічны механізм аховы навакольнага асяроддзя можа ўключаць у сябе і іншыя палажэнні, вызначаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Планаванне мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя**

Мэтай планавання мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя і прыродакарыстанню з'яўляецца забеспячэнне гарманічнага ўзаемадзеяння прыроды і грамадства на аснове навукова абгрунтаванага спалучэння экалагічных, эканамічных і сацыяльных інтарэсаў, выбар найбольш эфектыўных сродкаў прыродакарыстання, прадухілення і ліквідацыі негатыўнага ўплыву гаспадарчай і іншай дзейнасці на навакольнае асяроддзе, захаванне і павелічэнне прыродна-рэсурснага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь.

Планаванне мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца ў складзе прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і дзяржаўнага плана з улікам дзяржаўных і іншых праграм і патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Тэрытарыяльнае планаванне аховы навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца адпаведнымі Саветамі народных дэпутатаў з удзелам дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый.

Галіновае планаванне ў сферы аховы навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і іншымі дзяржаўнымі органамі з улікам паказчыкаў тэрытарыяльнага планавання.

**Артыкул 16. Фінансаванне экалагічных праграм і мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя**

Фінансаванне экалагічных праграм і мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя праводзіцца за кошт:

рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў;

сродкаў юрыдычных асоб, добраахвотных узносаў насельніцтва, замежных грамадзян, а таксама іншых крыніц;

рэспубліканскага, мясцовых пазабюджэтных фондаў і грамадскіх фондаў аховы прыроды;

крэдытаў банкаў.

**Артыкул 17. Ліміты на карыстанне прыроднымі рэсурсамі**

Ліміты на карыстанне прыроднымі рэсурсамі з'яўляюцца сістэмай экалагічных абмежаванняў па тэрыторыях і ўяўляюць сабой устаноўленыя прыродакарыстальнікам на пэўны перыяд часу аб'ёмы гранічнага выкарыстання (адабрання) прыродных рэсурсаў, выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў, размяшчэння адходаў.

Ліміты на прыродныя рэсурсы, якія здабываюцца, ліміты дапушчальных выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяродзе ўстанаўліваюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)".

Ліміты на размяшчэнне адходаў устанаўліваюцца абласнымі і Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў па ўзгадненню з органамі Дзяржаўнага камітэта па экалогіі.

**Артыкул 18. Плацяжы за карыстанне прыроднымі рэсурсамі**

Плацяжы за карыстанне прыроднымі рэсурсамі ўключаюць:

плацяжы за карыстанне прыроднымі рэсурсамі;

плацяжы за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў і плату за размяшчэнне адходаў.

Парадак выплаты падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі, выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе вызначаецца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)".

Парадак выплаты падатку за карыстанне зямлёй рэгулюецца спецыяльным законам.

Нарматывы платы за размяшчэнне адходаў устанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Дзяржаўнага камітэта па экалогіі.

За размяшчэнне адходаў звыш устаноўленых лімітаў плата бярэцца ў пяцікратным памеры.

Унясенне платы за карыстанне прыроднымі рэсурсамі не вызваляе прыродакарыстальніка ад выканання мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя і пакрыцця ўрону, прычыненага парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства.

**Артыкул 19. Пазабюджэтныя фонды аховы прыроды**

Для фінансавання неадкладных прыродаахоўных мерапрыемстваў, экалагічных праграм аднаўлення страт у навакольным асяроддзі, пакрыцця прычыненага ўрону і іншых мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя ствараюцца рэспубліканскі, абласныя, Мінскі гарадскі, раённыя (акрамя раёнаў у гарадах) і гарадскія пазабюджэтныя фонды аховы прыроды.

Пазабюджэтныя фонды аховы прыроды ўтвараюцца за кошт:

сродкаў, якія паступаюць ад юрыдычных і фізічных асоб, уключаючы замежных;

плацяжоў за выкіды (скіды) забруджвальных рэчываў у навакольнае асяроддзе;

платы за размяшчэнне адходаў;

сум, атрыманых у пакрыццё ўрону, штрафаў за забруджанне навакольнага асяроддзя і нерацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў і іншыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства;

сродкаў ад рэалізацыі канфіскаваных прылад палявання і рыбалоўства, а таксама ад продажу незаконна здабытай з іх дапамогай прадукцыі;

інвалютных паступленняў, атрыманых па исках ад замежных фізічных і юрыдычных асоб за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства;

добраахвотных узносаў юрыдычных асоб, ахвяраванняў грамадзян і іншых паступленняў;

долевага ўдзелу юрыдычных асоб, іншых прыродакарыстальнікаў у фінансаванні прыродаахоўных работ;

даходаў ад правядзення грашова-рэчавых латарэй.

Сродкі пазабюджэтных фондаў аховы прыроды залічваюцца на спецыяльныя рахункі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, 10 працэнтаў ад іх — на спецыяльны бягучы рахунак пазабюджэтных сродкаў Дзяржаўнага камітэта па экалогіі.

Сродкі ўказаных фондаў расходуюцца на мэты аздараўлення навакольнага асяроддзя, ажыццяўленне мер і праграм па ахове навакольнага асяроддзя і ўзнаўленню прыродных рэсурсаў, навуковыя даследаванні, укараненне экалагічна чыстых тэхналогій, будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, развіццё экалагічнага выхавання і адукацыі, стварэнне матэрыяльнай базы для ажыццяўлення кантролю за станам навакольнага асяроддзя, удзел у арганізацыі міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне аховы прыроды, іншыя патрэбы, звязаныя з аховай навакольнага асяроддзя.

Расходаванне сродкаў пазабюджэтных фондаў аховы прыроды на мэты, не звязаныя з прыродаахоўнай дзейнасцю, забараняецца.

**Артыкул 20. Эканамічнае стымуляванне аховы навакольнага асяроддзя**

У Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца стымуляванне рацыянальнага прыродакарыстання і аховы навакольнага асяроддзя шляхам:

прадастаўлення юрыдычным і фізічным асобам падатковых і іншых ільгот пры ўкараненні малаадходных і безадходных рэсурса- і энергазберагаючых тэхналогій, перапрацоўцы адходаў вытворчасці і спажывання, выкарыстанні другасных рэсурсаў, ажыццяўленні іншай дзейнасці, якая дае значны прыродаахоўны эфект;

устанаўлення павышаных норм амартызацыі асноўных вытворчых прыродаахоўных фондаў.

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь могуць устанаўлівацца іншыя віды эканамічнага стымулявання дзейнасці па ахове навакольнага асяроддзя.

### РАЗДЗЕЛ V. РЭГУЛЯВАННЕ ВЫКАРЫСТАННЯ ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ

**Артыкул 21. Агульнае і спецыяльнае карыстанне прыроднымі рэсурсамі**

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь грамадзянам гарантуецца права агульнага карыстання прыроднымі рэсурсамі для задавальнення іх патрэбнасцей бязвыплатна, без замацавання гэтых рэсурсаў за некаторымі асобамі і прадастаўлення адпаведных дазволаў, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Прыродныя рэсурсы ў парадку спецыяльнага выкарыстання прадастаўляюцца юрыдычным і фізічным асобам для ажыццяўлення вытворчай і іншай дзейнасці за плату, а ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, — на льготных умовах на падставе спецыяльных дазволаў, якія выдаюцца ўпаўнаважанымі на тое дзяржаўнымі органамі, і заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы.

### РАЗДЗЕЛ VI. НАЗІРАННЕ І ЎЛІК У ГАЛІНЕ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 22. Маніторынг навакольнага асяроддзя**

Маніторынг навакольнага асяроддзя ўяўляе сабой сістэму назіранняў за станам навакольнага асяроддзя для своечасовай ацэнкі магчымых змяненняў фізічных, хімічных і біялагічных працэсаў, узроўню забруджання атмасфернага паветра, глебы, водных і іншых прыродных аб'ектаў, папярэджвання і ўстаранення негатыўных з'яў, а таксама забеспячэння зацікаўленых арганізацый і насельніцтва бягучай і экстраннай інфармацыяй аб навакольным асяроддзі і прагназіравання яго стану.

Маніторынг навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца Дзяржаўным камітэтам па экалогіі, спецыяльна ўпаўнаважанымі на тое дзяржаўнымі органамі пры ўдзеле міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, ведамстваў, аб'яднанняў, прадпрыемстваў, арганізацый, іншых юрыдычных асоб.

Міністэрствы, ведамствы, аб'яднанні, прадпрыемствы, установы, арганізацыі, іншыя юрыдычныя асобы бясплатна перадаюць указаным дзяржаўным органам аналітычныя матэрыялы сваіх назіранняў.

Парадак ажыццяўлення маніторынгу навакольнага асяроддзя вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 23. Дзяржаўныя кадастры прыродных рэсурсаў**

Для ўліку колькасных, якасных і іншых характарыстык прыродных рэсурсаў, а таксама аб'ёму, характару і рэжыму іх выкарыстання вядуцца дзяржаўныя кадастры прыродных рэсурсаў.

Змест і парадак вядзення дзяржаўных кадастраў вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 24. Дзяржаўны ўлік аб'ектаў, якія ўздзейнічаюць на навакольнае асяроддзе**

Аб'екты, якія шкодна ўздзейнічаюць або могуць шкодна ўздзейнічаць на стан навакольнага асяроддзя, віды і колькасць шкодных рэчываў, што выдзяляюцца ў навакольнае асяроддзе, віды і памеры шкодных фізічных уздзеянняў на яго, падлягаюць дзяржаўнаму ўліку, які праводзіцца органамі Дзяржаўнага камітэта па экалогіі і Міністэрства аховы здароўя.

### РАЗДЗЕЛ VII. НАРМАТЫЎНА ТЭХНІЧНАЕ І МЕТРАЛАГІЧНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 25. Патрабаванні да нарматыўна-тэхнічнага і метралагічнага забеспячэння аховы навакольнага асяроддзя**

У мэтах эфектыўнай аховы навакольнага асяроддзя ўстанаўліваецца адзіная сістэма патрабаванняў да нарматыўна-тэхнічнага і метралагічнага забеспячэння прыродаахоўнай дзейнасці, вымярэнняў, якія вызначаюць уздзеянне вытворчай і іншай дзейнасці на навакольнае асяроддзе.

Сістэма нарматыўна-тэхнічнага і метралагічнага забеспячэння ўключае нарматывы гранічна дапушчальных канцэнтрацый і выкідаў (скідаў) забруджвальных рэчываў і мікраарганізмаў у навакольнае асяроддзе, шкодных фізічных уздзеянняў і ўзроўню радыяцыйнай бяспекі. Указаная сістэма ўключае патрабаванні: дзяржаўныя, мясцовыя, галіновыя, а таксама патрабаванні, якія ўстанаўліваюцца прадпрыемствамі.

Нарматыўна-тэхнічныя і метралагічныя патрабаванні ў галіне аховы навакольнага асяроддзя павінны адпавядаць міжнародным стандартам, канвенцыям і пагадненням, у якіх удзельнічае Рэспубліка Беларусь, сусветным дасягненням навукі і тэхнікі.

Распрацоўка нарматыўна-тэхнічных і метралагічных патрабаванняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца ў парадку, які ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры невыкананні нарматыўна-тэхнічных і метралагічных патрабаванняў па ахове навакольнага асяроддзя ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, абмяжоўваецца, прыпыняецца або спыняецца дзейнасць юрыдычных асоб, іх адасобленых падраздзяленняў, установак абсталявання па рашэннях дзяржаўных органаў па ахове навакольнага асяроддзя, органаў санітарнага нагляду і іншых спецыяльна ўпаўнаважаных органаў або па іх прадстаўленню мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў пры адначасовым спыненні фінансавання забароненых работ да ўстаранення парушэнняў. Абмежаванне, прыпыненне або спыненне дзейнасці не вызваляюць вінаватых ад прадугледжанай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь адказнасці за ўрон, нанесены навакольнаму асяроддзю.

### РАЗДЗЕЛ VIII. ЭКАЛАГІЧНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

**Артыкул 26. Мэты і прынцыпы дзяржаўнай экалагічнай экспертызы**

Дзяржаўная экалагічная экспертыза праводзіцца з мэтай:

вызначэння ўзроўню экалагічнай небяспекі, якая можа ўзнікнуць у працэсе ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці цяпер або ў будучым і прама або ўскосна аказаць адмоўнае ўздзеянне на стан навакольнага асяроддзя і здароўе насельніцтва;

ацэнкі адпаведнасці гаспадарчай і іншай дзейнасці, якая плануецца, праектуецца, патрабаванням прыродаахоўнага заканадаўства;

вызначэння дастатковасці і абгрунтаванасці мер па ахове навакольнага асяроддзя, якія прадугледжваюцца праектам.

Дзяржаўная экалагічная экспертыза праводзіцца дзяржаўнымі органамі па экалогіі на аснове прынцыпаў законнасці, навуковай абгрунтаванасці, комплекснасці, галоснасці з удзелам у неабходных выпадках дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.

Правядзенне дзяржаўнай экалагічнай экспертызы ажыццяўляецца ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Рэалізацыя праектаў, якія падлягаюць дзяржаўнай экалагічнай экспертызе, без станоўчага заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы забараняецца і не падлягае фінансаванню.

**Артыкул 27. Аб'екты дзяржаўнай экалагічнай экспертызы**

Дзяржаўнай экалагічнай экспертызе падлягаюць:

перадпланавая, перадпраектная і праектная дакументацыя па гаспадарчай і іншай дзейнасці, якая можа аказаць адмоўнае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе;

праекты планаў (праграм), асноўных напрамкаў, схем развіцця і размяшчэння прадукцыйных сіл і галін народнай гаспадаркі;

дзеючыя прадпрыемствы і іншыя аб'екты;

экалагічны стан асобных рэгіёнаў і мясцовасцей.

Дзяржаўнай экалагічнай экспертызе падлягаюць іншыя праекты, рашэнні, сістэмы, аб'екты, укараненне або рэалізацыя якіх можа прывесці да парушэння норм экалагічнай бяспекі.

**Артыкул 28. Грамадская экалагічная экспертыза**

Грамадская экалагічная экспертыза ажыццяўляецца незалежнымі групамі спецыялістаў па ініцыятыве грамадскіх арганізацый, Саветаў народных дэпутатаў і грамадзян за кошт іх уласных сродкаў або на грамадскіх пачатках.

Грамадская экалагічная экспертыза праводзіцца незалежна ад дзяржаўнай экалагічнай экспертызы.

Заключэнні грамадскай экалагічнай экспертызы ўлічваюцца органамі, якія ажыццяўляюць дзяржаўную экалагічную экспертызу.

### РАЗДЗЕЛ IX. ЭКАЛАГІЧНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ГАСПАДАРЧАЙ І ІНШАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**Артыкул 29. Экалагічныя патрабаванні да размяшчэння, праектавання, будаўніцтва, рэканструкцыі, уводу ў эксплуатацыю і эксплуатацыі прадпрыемстваў, збудаванняў і іншых аб'ектаў**

Праекты аб'ектаў гаспадарчай і іншай дзейнасці павінны змяшчаць матэрыялы па ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе.

Ацэнка ўздзеяння на навакольнае асяроддзе ажыццяўляецца ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Забараняецца ўвод у эксплуатацыю аб'ектаў, якія не забяспечваюць выкананне ў поўным аб'ёме ўсіх экалагічных патрабаванняў, а таксама без завяршэння запраектаваных работ па ахове навакольнага асяроддзя.

**Артыкул 30. Экалагічныя патрабаванні пры абыходжанні з хімічнымі рэчывамі**

Юрыдычныя і фізічныя асобы абавязаны выконваць экалагічныя патрабаванні пры вытворчасці, захоўванні, транспарціроўцы, прымяненні, абясшкоджванні і захаванні ў магільніках хімічных рэчываў, выконваць устаноўленыя нарматывы выкарыстання, прымаць меры да папярэджвання і ліквідацыі шкодных вынікаў іх прымянення для навакольнага асяроддзя.

(Заканчэнне на 5-й стар.)

# Аб ахове навакольнага асяроддзя

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)

Парушэнне экалагічных патрабаванняў пры абыходжанні з хімічнымі рэчывамі, якое стварае пагрозу забруджвання навакольнага асяроддзя, цягне за сабой забарону вытворчасці, захоўвання, транспарціроўкі, прымянення, абясшкоджвання або захавання ў магільніках гэтых рэчываў па рашэнню прыродаахоўных ці іншых спецыяльна ўпаўнаважаных органаў, не вызваляючы вінаватых ад дысцыплінарнай або крымінальнай адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 31. Ахова навакольнага асяроддзя ад шкоднага біялагічнага ўздзеяння**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія аказваюць біялагічнае ўздзеянне на прыроду, абавязаны забяспечваць у працэсе сваёй дзейнасці экалагічна бяспечную вытворчасць (стварэнне), захоўванне (утрыманне), акліматызацыю і рэакліматызацыю, транспарціроўку, выкарыстанне і захаванне ў магільніках мікраарганізмаў, жывёл, раслін і рэчываў, распрацоўваць і ажыццяўляць мерапрыемствы па папярэджванню і ліквідацыі аварый і катастроф, папярэджванню і ліквідацыі вынікаў шкоднага біялагічнага ўздзеяння на прыроду і здароўе чалавека, генетычны фонд і экалагічныя сістэмы.

**Артыкул 32. Ахова навакольнага асяроддзя ад шуму, вібрацыі, электрамагнітных палёў і іншых шкодных фізічных уздзеянняў**

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, юрыдычныя асобы і грамадзяне абавязаны прымаць неабходныя меры па папярэджванню шкоднага ўздзеяння і ўстараненню інтэнсіўнага шуму, вібрацыі, шкоднага ўздзеяння электрамагнітных палёў і іншых шкодных фізічных уздзеянняў на навакольнае асяроддзе.

Забараняецца перавышэнне нарматываў гранічна дапушчальных узроўняў уздзеяння на здароўе чалавека і навакольнае асяроддзе вытворчага і транспартнага шуму, вібрацыі, электрамагнітных палёў і іншых шкодных уздзеянняў.

**Артыкул 33. Ахова навакольнага асяроддзя ад забруджвання вытворчымі, бытавымі і іншымі адходамі**

Месцы складзіравання, захавання ў магільніках (размяшчэння) адходаў вызначаюцца абласнымі Саветамі народных дэпутатаў з захаваннем санітарных норм і правіл па абавязковаму ўзгадненню з мясцовымі Саветамі, органамі па экалогіі, санітарна-эпідэміялагічнага нагляду, Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы і іншымі зацікаўленымі дзяржаўнымі органамі.

Захаванне ў магільніках радыеактыўных адходаў праводзіцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС".

Забараняецца захаванне ў магільніках шкодных адходаў на тэрыторыі гарадоў, іншых населеных пунктаў, у водных аб'ектах, падземных ваданосных гарызонтах, курортна-аздараўленчых зонах і іншых месцах, дзе можа быць створана небяспека пагаршэння стану навакольнага асяроддзя і здароўя насельніцтва.

**Артыкул 34. Экалагічная бяспека транспартных сродкаў**

Юрыдычныя асобы, якія ажыццяўляюць праектаванне, вытворчасць, эксплуатацыю і абслугоўванне аўтамабіляў, самалётаў, суднаў і іншых перасовачных сродкаў, установак і вытворчасцей, абавязаны распрацоўваць і ажыццяўляць меры па зніжэнню таксічнасці, дымнасці, а таксама абясшкоджванню шкодных рэчываў, якія змяшчаюцца ў выкідах (скідах) транспартных сродкаў, пераходу на менш таксічныя віды энергіі і паліва, захаванне рэжыму эксплуатацыі транспартных сродкаў і іншыя меры, накіраваныя на прадухіленне і змяншэнне выкідаў забруджвальных рэчываў.

Вытворчасць і эксплуатацыя транспартных і іншых перасовачных сродкаў і ўстановак, у выкідах (скідах) якіх утрыманне забруджвальных рэчываў і ўзроўні фізічных уздзеянняў перавышаюць устаноўленыя нарматывы, цягне за сабой адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 35. Выкананне патрабаванняў экалагічнай бяспекі пры правядзенні навуковых даследаванняў, укараненні адкрыццяў, вынаходстваў, прымяненні новай тэхнікі, абсталявання, матэрыялаў, тэхналогій і сістэм**

Пры правядзенні фундаментальных і прыкладных навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ павінны ўлічвацца патрабаванні забеспячэння экалагічнай бяспекі, аховы навакольнага асяроддзя, рацыянальнага выкарыстання і аднаўлення прыродных рэсурсаў.

Забараняецца ўкараненне адкрыццяў, вынаходстваў, прымяненне новай тэхнікі, абсталявання, матэрыялаў, тэхналогій і сістэм, калі яны не адказваюць патрабаванням экалагічнай бяспекі.

**Артыкул 36. Экалагічныя патрабаванні да ваенных і абаронных аб'ектаў, ваеннай дзейнасці**

Патрабаванні, якія прад'яўляюцца гэтым Законам да размяшчэння, будаўніцтва, уводу ў эксплуатацыю і эксплуатацыі прадпрыемстваў, збудаванняў і іншых аб'ектаў, а таксама іншыя патрабаванні, устаноўленыя гэтым Законам у галіне аховы навакольнага асяроддзя, у поўнай меры адносяцца да ваенных і абаронных аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь пры дыслакацыі войск і ваеннай тэхнікі (акрамя асобых сітуацый).

Органы ваеннага кіравання абавязаны пакрываць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю і здароўю чалавека, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 37. Ахова азонавага слою атмасферы**

У адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі, што дзейнічаюць у Рэспубліцы Беларусь, юрыдычныя асобы абавязаны скараціць і ў далейшым спыніць вытворчасць і выкарыстанне хімічных рэчываў, якія шкодна ўздзейнічаюць на азонавы слой атмасферы.

Спіс хімічных рэчываў і адходаў вытворчасці, якія шкодна ўздзейнічаюць на стан азонавага слою атмасферы, зацвярджаецца ўпаўнаважанымі на тое дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ X. ЗОНЫ НАДЗВЫЧАЙНАЙ ЭКАЛАГІЧНАЙ СІТУАЦЫІ І ЭКАЛАГІЧНАГА БЕДСТВА

**Артыкул 38. Зоны надзвычайнай экалагічнай сітуацыі**

Зонамі надзвычайнай экалагічнай сітуацыі могуць аб'яўляцца ўчасткі тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, дзе ў выніку гаспадарчай і іншай дзейнасці, разбуральнага ўплыву стыхійных сіл прыроды, аварыі, што мела месца, адбываюцца ўстойлівыя адмоўныя змяненні ў навакольным асяроддзі, якія пагражаюць здароўю людзей, стану натуральных экалагічных сістэм, прыроднаму генетычнаму фонду.

Зоны надзвычайнай экалагічнай сітуацыі аб'яўляюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У зоне надзвычайнай экалагічнай сітуацыі прыпыняецца дзейнасць юрыдычных асоб і аб'ектаў, якія адмоўна ўплываюць на навакольнае асяроддзе і здароўе чалавека, абмяжоўваюцца асобныя віды прыродакарыстання, прымаюцца аператыўныя меры па аднаўленню экалагічнай сітуацыі.

Фінансаванне мерапрыемстваў па аздараўленню зон надзвычайнай экалагічнай сітуацыі праводзіцца ў першую чаргу за кошт сродкаў юрыдычных асоб, па віне якіх адбылася аварыя або катастрофа, а таксама за кошт сродкаў мясцовых і рэспубліканскага бюджэтаў, іншых крыніц.

**Артыкул 39. Зоны экалагічнага бедства**

Зонамі экалагічнага бедства аб'яўляюцца ўчасткі тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, дзе ў выніку гаспадарчай або іншай дзейнасці адбыліся глыбокія неабарачальныя змяненні асяроддзя, якія вядуць да істотнага пагаршэння здароўя насельніцтва, парушэння прыроднай раўнавагі, разбурэння натуральных экалагічных сістэм, дэградацыі глеб, флоры і фауны.

Зоны экалагічнага бедства аб'яўляюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

У зоне экалагічнага бедства спыняецца дзейнасць гаспадарчых аб'ектаў, акрамя звязаных з абслугоўваннем насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі зоны, забараняецца будаўніцтва, рэканструкцыя новых гаспадарчых аб'ектаў, істотна абмяжоўваецца прыродакарыстанне, прымаюцца аператыўныя меры па аднаўленню экалагічнай сітуацыі і аздараўленню навакольнага асяроддзя.

Фінансаванне мерапрыемстваў па аздараўленню ўказаных зон праводзіцца ў парадку, устаноўленым часткай чацвёртай артыкула 39 гэтага Закона. Прававы рэжым тэрыторый Рэспублікі Беларусь, што падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку чарнобыльскай катастрофы, вызначаецца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС".

## РАЗДЗЕЛ XI. АСОБА АХОЎВАЕМЫЯ ПРЫРОДНЫЯ АБ'ЕКТЫ І ТЭРЫТОРЫІ

**Артыкул 40. Прыродныя аб'екты і тэрыторыі, якія падлягаюць асобай ахове**

Да асоба ахоўваемых аб'ектаў прыроды адносяцца дзяржаўныя запаведнікі, нацыянальныя паркі, заказнікі, помнікі прыроды, а таксама жывёлы і расліны, якія адносяцца да відаў, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Парадак вядзення Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Асобай ахове падлягаюць таксама курортныя зоны, зоны адпачынку, прыбярэжныя палосы, водаахоўныя зоны (палосы), зоны санітарнай аховы крыніц пітнога водазабеспячэння, лясы зялёных зон гарадоў і іншых населеных пунктаў, забаронныя палосы лясоў і іншыя тэрыторыі ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Стварэнне дзяржаўных запаведнікаў, нацыянальных паркаў, заказнікаў, аб'яўленне асобных аб'ектаў помнікамі прыроды праводзіцца ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ XII. КАНТРОЛЬ І НАГЛЯД У ГАЛІНЕ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 41. Задачы кантролю і нагляду ў галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Задачы кантролю і нагляду ў галіне аховы навакольнага асяроддзя заключаюцца ў забеспячэнні выканання юрыдычнымі асобамі і грамадзянамі патрабаванняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб ахове навакольнага асяроддзя.

Сістэма кантролю і нагляду ў галіне аховы навакольнага асяроддзя складаецца з дзяржаўнага, ведамаснага, вытворчага і грамадскага кантролю.

**Артыкул 42. Дзяржаўны кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Дзяржаўны кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя ажыццяўляюць Саветы народных дэпутатаў, адпаведныя органы Дзяржаўнага камітэта па экалогіі і іншыя спецыяльна ўпаўнаважаныя на тое дзяржаўныя органы.

Нагляд за выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства ажыццяўляе экалагічная пракуратура Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 43. Ведамасны і вытворчы кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Ведамасны кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі, ведамствамі з мэтай забеспячэння выканання падведамнымі прадпрыемствамі і арганізацыямі планаў і мерапрыемстваў па ахове навакольнага асяроддзя, прыродаахоўнага заканадаўства, прадпісанняў Дзяржаўнага камітэта па экалогіі і іншых спецыяльна ўпаўнаважаных на тое дзяржаўных органаў.

Вытворчы кантроль у гэтай галіне ажыццяўляецца экалагічнымі службамі прадпрыемстваў, арганізацый і іншых гаспадарчых суб'ектаў.

**Артыкул 44. Грамадскі кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Грамадскі кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя ажыццяўляецца грамадскімі арганізацыямі, працоўнымі калектывамі і ставіць сваёй задачай правядзенне грамадскай праверкі выканання юрыдычнымі асобамі і грамадзянамі прыродаахоўнага заканадаўства, а таксама выканання мерапрыемстваў па ахове, рацыянальнаму выкарыстанню і ўзнаўленню прыродных рэсурсаў.

Парадак арганізацыі грамадскага кантролю рэгулюецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, статутамі грамадскіх арганізацый.

## РАЗДЗЕЛ XIII. СІСТЭМА ЭКАЛАГІЧНАЙ АСВЕТЫ, АДУКАЦЫІ І ВЫХАВАННЯ

**Артыкул 45. Сістэма экалагічнай асветы, адукацыі і выхавання**

У Рэспубліцы Беларусь забяспечваецца сістэма ўсеагульнай, комплекснай, бесперапыннай экалагічнай асветы, адукацыі і выхавання, якая ахоплівае дашкольную, школьную адукацыю і выхаванне, прафесіянальную падрыхтоўку спецыялістаў у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, усе формы павышэння кваліфікацыі.

**Артыкул 46. Абавязковасць выкладання экалагічных ведаў у навучальных установах**

Для авалодання мінімумам экалагічных ведаў, неабходных у фарміраванні экалагічнай культуры грамадзян, у дашкольных установах, школах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах прадугледжваецца абавязковае выкладанне асноў экалагічных ведаў.

**Артыкул 47. Прафесіянальная экалагічная падрыхтоўка кіруючых работнікаў і спецыялістаў**

Кіраўнікі міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, іншыя службовыя асобы і спецыялісты, звязаныя з дзейнасцю, якая аказвае ўплыў на навакольнае асяроддзе і здароўе чалавека, абавязаны мець неабходную экалагічную падрыхтоўку, рэгулярна павышаць узровень экалагічных ведаў, што павінна ўлічвацца пры іх назначэнні на пасаду, атэстацыі і пераатэстацыі.

## РАЗДЗЕЛ XIV. АДКАЗНАСЦЬ ЗА ПАРУШЭННІ ЗАКАНАДАЎСТВА АБ АХОВЕ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ І ПАКРЫЦЦЁ ШКОДЫ, ПРЫЧЫНЕНАЙ ГЭТЫМІ ДЗЕЯННЯМІ

**Артыкул 48. Адказнасць за парушэнне заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя**

Асобы, вінаватыя ў парушэнні заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя, нясуць дысцыплінарную, адміністрацыйную, крымінальную і іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, што не вызваляе іх ад неабходнасці пакрыцця шкоды, прычыненай гэтымі дзеяннямі.

**Артыкул 49. Абавязак поўнага пакрыцця шкоды, прычыненай парушэннем заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя**

Юрыдычныя асобы, грамадзяне, службовыя асобы, якія прычынілі шкоду навакольнаму асяроддзю, здароўю і маёмасці грамадзян, іншым юрыдычным асобам з прычыны парушэння імі прыродаахоўнага заканадаўства, абавязаны пакрыць яе ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 50. Парадак пакрыцця шкоды, прычыненай парушэннем заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя**

Пакрыццё шкоды, прычыненай навакольнаму асяроддзю парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства, праводзіцца добраахвотна або па рашэнню суда.

**Артыкул 51. Пакрыццё шкоды, прычыненай здароўю і маёмасці грамадзян неспрыяльным станам навакольнага асяроддзя**

Шкода, прычыненая здароўю і маёмасці грамадзян пагаршэннем стану навакольнага асяроддзя, выкліканым дзейнасцю юрыдычных асоб або грамадзян, падлягае пакрыццю ў поўным аб'ёме. Пакрыццё шкоды праводзіцца на падставе рашэння суда па іску пацярпеўшага, членаў яго сям'і, пракурора, спецыяльна ўпаўнаважаных органаў або грамадскіх арганізацый.

Пакрыццё шкоды, прычыненай у выніку буйных аварый, а таксама стыхійных бедстваў, праводзіцца ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ XV. ВЫРАШЭННЕ СПРЭЧАК У ГАЛІНЕ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 52. Парадак вырашэння спрэчак у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Спрэчкі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя вырашаюцца судамі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 53. Вырашэнне спрэчак у галіне аховы навакольнага асяроддзя паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі дзяржавамі**

Спрэчкі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі дзяржавамі разглядаюцца ў парадку, які вызначаецца міждзяржаўнымі экалагічнымі пагадненнямі.

Органы сістэмы Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі і іншых упаўнаважаных на тое устаноў вызваляюцца ад выплаты дзяржаўнай пошліны паісках аб пакрыцці шкоды, прычыненай аб'ектам навакольнага асяроддзя.

## РАЗДЗЕЛ XVI. МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў ГАЛІНЕ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**Артыкул 54. Удзел у міжнародным супрацоўніцтве ў галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Рэспубліка Беларусь прымае ўдзел у міжнародным супрацоўніцтве ў галіне аховы навакольнага асяроддзя на дзяржаўным і грамадскім узроўнях у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнародным правам.

**Артыкул 55. Абавязкі замежных юрыдычных асоб, грамадзян замежных дзяржаў і асоб без грамадзянства па ахове навакольнага асяроддзя**

Замежныя юрыдычныя асобы, грамадзяне замежных дзяржаў і асобы без грамадзянства абавязаны на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь выконваць патрабаванні гэтага Закона і іншых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь і нясуць адказнасць за іх парушэнне ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 56. Міжнародныя дагаворы ў галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Калі ў міжнародным дагаворы, заключаным Рэспублікай Беларусь, устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

26 лістапада 1992г.
г.Мінск.
N 1982-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. 1990 г., N 2, арт. 15) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У тэксце Закона словы "камерцыйныя банкі (дзяржаўныя, акцыянерныя, кааператыўныя) і іншыя крэдытныя ўстановы", "камерцыйныя банкі", "камерцыйныя банкі і іншыя крэдытныя ўстановы" замяніць словам "банкі" ў адпаведным склоне.

2. Артыкул 1 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

"Выкарыстанне слова "банк" не дапускаецца ў назве юрыдычнай асобы, гаспадарчай дзейнасці без банкаўскай ліцэнзіі, якая выдаецца ў адпаведнасці з гэтым Законам, акрамя выпадкаў, калі такое выкарыстанне прадугледжана дзеючым заканадаўствам, міжнароднымі пагадненнямі або ў выпадках, калі гэты тэрмін не адносіцца да банкаўскай дзейнасці".

3. Артыкул 3 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

"Службовым асобам і спецыялістам, якія працуюць у органах дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання, забараняецца ўдзельнічаць адначасова і ў органах кіравання банкаў, акрамя выпадкаў, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам".

4. У артыкуле 4:

абзац пяты выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"праводзіць аперацыі з каштоўнымі паперамі, за выключэннем аперацый эмітэнтаў, якія абслугоўваюцца ў гэтым банку";

абзац сёмы дапоўніць словамі: "звязаныя з банкаўскай дзейнасцю";

абзац дзевяты выкласці ў наступнай рэдакцыі:

купляць і прадаваць замежную валюту і ажыццяўляць іншыя валютныя аперацыі на падставе ліцэнзіі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь".

5. Артыкул 5 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"**Артыкул 5.** Банкам забараняецца:

прадастаўляць крэдыты ўраду і мясцовым органам дзяржаўнай улады для фінансавання бюджэтных дэфіцытаў. Крэдыты ўраду для фінансавання бюджэтнага дэфіцыту могуць прадастаўляцца толькі Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь;

уступаць у любога роду здзелкі, якія могуць прывесці да незаконных даходаў;

памяншаць без папярэдняга пісьмовага дазволу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь свой статутны капітал шляхам выкупу акцый, праз удзел у дзейнасці іншых юрыдычных асоб або іншым чынам;

ажыццяўляць на больш ільготных умовах крэдытаванне пайшчыкаў, акцыянераў банка або іншых уладальнікаў банка".

6. Частку трэцюю артыкула 9 выкласці ў новай рэдакцыі:

"Ашчадны банк Рэспублікі Беларусь спецыялізуецца на крэдытна-разліковым абслугоўванні насельніцтва, а таксама крэдытаванні прадпрымальніцтва, якое займаецца вытворчасцю тавараў народнага спажывання і аказаннем паслуг насельніцтву. Акрамя таго, Ашчадным банкам Рэспублікі Беларусь крэдытныя рэсурсы могуць размяшчацца на рыначных умовах у пазыковыя абавязацельствы Рэспублікі Беларусь, у Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, а таксама выкарыстоўвацца для крэдытавання іншай дзейнасці, прадугледжанай у артыкуле 4 гэтага Закона".

7. Другі сказ артыкула 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі: "Адным з яго заснавальнікаў выступае ўрад Рэспублікі Беларусь".

8. Артыкул 11 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"**Артыкул 11.** Банкі ствараюцца заснавальнікамі — фізічнымі і юрыдычнымі асобамі, за выключэннем грамадскіх аб'яднанняў, якія дамагаюцца палітычных мэт. Банкі могуць заснуоўвацца на аснове дзяржаўнай, прыватнай і змешанай форм уласнасці.

Статутны капітал банка і філіяла банка на правах юрыдычнай асобы павінен быць поўнасцю аплачаны да рэгістрацыі. Сістэма аплаты працы і матэрыяльнага стымулявання ў банках вызначаецца саветамі банкаў па ўзгадненню з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

Замежныя заснавальнікі могуць ствараць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь банкі са 100-працэнтным уласным капіталам, сумесныя банкі на долевай аснове з беларускімі сузаснавальнікамі, філіялы і прадстаўніцтвы.

Сваю дзейнасць банкі ажыццяўляюць на падставе ліцэнзій на правядзенне банкаўскіх аперацый, атрыманых ад Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Атрыманне грашовых укладаў і іншых зваротных сродкаў і выдача крэдытаў ад свайго імя без ліцэнзіі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь любымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі не дапускаюцца.

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь устанаўлівае плату за выдачу ліцэнзій на правядзенне банкаўскіх аперацый.

Юрыдычныя і фізічныя асобы за правядзенне банкаўскіх аперацый без ліцэнзіі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, а таксама за незаконнае выкарыстанне слова "банк" нясуць адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам".

9. Дапоўніць Закон артыкуламі $11^1$ і $11^2$ наступнага зместу:

"**Артыкул $11^1$.** Устаноўчыя дакументы банкаў падрыхтоўваюцца ў адпаведнасці з рэкамендацыямі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнікі банка для атрымання ліцэнзіі на правядзенне банкаўскіх аперацый прадстаўляюць наступныя дакументы:

хадайніцтва аб выдачы ліцэнзіі на правядзенне банкаўскіх аперацый з эканамічным абгрунтаваннем неабходнасці стварэння банка;

звесткі аб прафесіянальнай прыгоднасці двух вышэйшых кіраўнікоў і галоўнага бухгалтара банка;

прагнозныя балансы банка і разлік яго плана даходаў, расходаў і прыбытку на канец першага года дзейнасці;

статут банка;

дэкларацыі аб крыніцах інвестыцый у статутны фонд банка;

устаноўчы дагавор, пратакол сходу заснавальнікаў і іншыя дакументы згодна з дзеючым заканадаўствам.

Статуты і іншыя ўстаноўчыя дакументы складаюцца і зацвярджаюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Замежныя банкі і банкі з удзелам замежнага капіталу для атрымання ліцэнзіі на правядзенне банкаўскіх аперацый дадаткова прадстаўляюць дакументы, якія пацвярджаюць згоду кантрольнага органа краіны замежнага заснавальніка на яго ўдзел у стварэнні банка ў Рэспубліцы Беларусь і змяшчаюць доказы яго юрыдычнага статуса і плацежаздольнасці, а ў адносінах да фізічных асоб — рэкамендацыі не менш чым ад дзвюх замежных юрыдычных асоб або грамадзян з вядомай плацежаздольнасцю.

Абавязковай умовай стварэння банкаў, якія заснуоўваюцца на аснове або з удзелам замежнага капіталу, з'яўляецца наяўнасць замежнага банка ў ліку заснавальнікаў.

Пералічаныя патрабаванні прад'яўляюцца і да ўстаноўчых дакументаў пры адкрыцці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь замежным банкам сваіх філіялаў або прадстаўніцтваў.

**Артыкул $11^2$.** Банкі атрымліваюць правы юрыдычнай асобы з моманту іх рэгістрацыі ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь.

Банкі ў месячны тэрмін пісьмова паведамляюць Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь аб усіх змяненнях, якія ўносяцца ва ўстаноўчыя дакументы, для іх узгаднення. Пры змяненні складу ўладальнікаў банка новыя інвестары абавязаны пацвердзіць законнасць паходжання сваіх уласных сродкаў".

10. Артыкул 12 дапоўніць новымі часткамі наступнага зместу:

"Банкі падтрымліваюць належны капітал і дастатковасць ліквідных рэсурсаў і забяспечваюць дыверсіфікацыю сваіх актываў, каб пазбегнуць страт.

У выпадку прыняцця органамі дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання рашэння аб прадастаўленні крэдытаў на льготных умовах кампенсацыя страт банкам ажыццяўляецца за кошт сродкаў адпаведных бюджэтаў.

Банкі забяспечваюць галоснасць і публічнасць сярэдніх працэнтных ставак па крэдытах і дэпазітах".

11. Артыкул 13 дапоўніць новымі часткамі наступнага зместу:

"Філіялы банкаў ажыццяўляюць банкаўскія аперацыі з моманту іх рэгістрацыі ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь.

Адкрыццё філіялаў і прадстаўніцтваў банкаў, даччыных банкаў, банкаў з удзелам беларускага капіталу, якія заснуоўваюцца за межамі Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляецца па ліцэнзіі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь".

12. Артыкул 14 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

"У выпадку прыняцця банкамі рашэння аб зліцці неабходна атрыманне дазволу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на іх зліццё".

13. Артыкул 16 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

"Банкі могуць ажыццяўляць інвестыцыі ў статутныя фонды прадпрыемстваў, арганізацый, кааператываў і іншых юрыдычных асоб толькі пасля атрымання дазволу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусі пры ўмове наяўнасці крыніц інвесціравання".

14. У частцы першай артыкула 17 слова "заснавальнікаў" замяніць словамі "акцыянераў, пайшчыкаў або іншых уладальнікаў банка з пісьмовай згодай Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь".

Дапоўніць артыкул пасля часткі другой новай часткай наступнага зместу:

"У выпадку прызнання судом банка банкрутам распрадажа маёмасці гэтага банка праводзіцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам".

Частку трэцюю лічыць часткай чацвёртай.

15. Дапоўніць Закон новым артыкулам $17^1$ наступнага зместу:

"**Артыкул $17^1$.** Прэтэнзіі крэдытораў, якія прад'яўляюцца да ліквідуемага банка, задавальняюцца з рэшты грашовых сродкаў і маёмасці гэтага банка. У першачарговым парадку пагашаюцца даўгі фізічным асобам і бюджэту.

Прэтэнзіі, якія прад'яўляюцца пасля заканчэння тэрміну, устаноўленага для іх заявы, задавальняюцца пасля задавальнення прэтэнзій, заяўленых ва ўстаноўлены тэрмін.

Патрабаванні крэдытораў, не задаволеныя з-за недахопу грашовых сродкаў і маёмасці, лічацца пагашанымі. Пагашанымі лічацца таксама прэтэнзіі, не прызнаныя ліквідацыйнай камісіяй, калі крэдыторы на працягу месячнага тэрміну з дня атрымання паведамлення аб поўным або частковым непрызнанні прэтэнзій не прад'яўляюць іскі ў суд або Гаспадарчы суд аб задавальненні іх патрабаванняў".

16. У артыкуле 19 выключыць словы "якія адкрываюцца гэтымі банкамі ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь".

17. Артыкул 21 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

"Банкі нясуць адказнасць за своечасовасць выканання даручэнняў кліентаў".

18. Дапоўніць Закон новымі артыкуламі $21^1$ і $21^2$ наступнага зместу:

"**Артыкул $21^1$.** Банк абавязаны мець унутраную аўдытарскую службу.

**Артыкул $21^2$.** Абавязкі па сертыфікацыі справаздач банка выконваюцца незалежным знешнім аўдытарам. Ім можа быць аўдытарская арганізацыя, для якой гэты від дзейнасці з'яўляецца асноўным, а таксама асобны чалавек. Знешні аўдытар павінен адпавядаць кваліфікацыйным патрабаванням".

19. Артыкул 22 выкласці ў новай рэдакцыі:

"**Артыкул 22.** Банкі гарантуюць тайну па аперацыях, рахунках і ўкладах кліентаў. Даведкі па аперацыях і рахунках юрыдычных асоб могуць выдавацца самім юрыдычным асобам, следчым органам, судам, Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь, Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь, аўдытарскім арганізацыям, падатковым органам па пытаннях падаткаабкладання, а таксама фінансавым органам па пытаннях, звязаных з выдзяленнем бюджэтных асігнаванняў.

Даведкі аб укладчыку (фізічнай асобе) і аб аперацыях па ўкладу могуць быць выдадзены:

органам дазнання, папярэдняга следства і судам па крымінальных справах, што знаходзяцца ў іх вядзенні, па якіх у адпаведнасці з законам можа быць прыменена канфіскацыя маёмасці, а таксама судам па грамадзянскіх справах, што вынікаюць з крымінальных спраў;

судам па грамадзянскіх справах, якія знаходзяцца ў іх вядзенні, аб спагнанні аліментаў (пры адсутнасці заработку або іншай маёмасці, на якую можа быць звернута спагнанне) або аб раздзеле ўкладу, што з'яўляецца сумеснай уласнасцю мужа і жонкі, спагнанні сум, атрыманых у выглядзе пазык, і іншых справах;

дзяржаўным натарыяльным канторам па спадчынных справах аб укладах памёршых укладчыкаў.

Асобы, вінаватыя ў выдаванні тайны ўкладу, прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам".

20. Частку першую артыкула 23 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"**Артыкул 23.** На грашовыя сродкі і іншыя каштоўнасці юрыдычных асоб, што знаходзяцца ў банках, арышт можа быць накладзены не інакш як па рашэннях судоў, пастановах следчых органаў, па рашэннях Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь (у адносінах да юрыдычных асоб, якія адмовіліся або не выконваюць абавязацельстваў па дагаворах залогу ў забеспячэнні канкрэтных абавязацельстваў і гарантый, выдадзеных Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь замежнаму боку). Спагнанне можа быць звернута толькі па выканаўчых лістах, выдадзеных судамі, па загадах Гаспадарчых судоў і іншых выканаўчых дакументах, а ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, — па патрабаванню фінансавых органаў і іншых арганізацый".

21. Першы сказ артыкула 30 пасля слоў "Даходы па ўкладах" дапоўніць словамі "Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь".

22. Артыкул 31 пасля слоў "Уклады" дапоўніць словамі "Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь".

23. Артыкул 33 выкласці ў новай рэдакцыі:

"**Артыкул 33.** Банкі-крэдыторы маюць права звяртацца ў судовыя органы для разгляду пытання аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве даўжнікоў, якія не выконваюць свае дагаворныя абавязацельствы".

24. Артыкулы 34 і 35 выключыць.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

9 снежня 1992 г.
г.Мінск.
N 2029-XII.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове навакольнага асяроддзя"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове навакольнага асяроддзя" з дня апублікавання.

2. У далейшым да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб ахове навакольнага асяроддзя" акты дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь па ахове навакольнага асяроддзя прымяняюцца ў той частцы, што не супярэчыць гэтаму Закону.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб пазабюджэтных фондах аховы прыроды:

у трохмесячны тэрмін прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб ахове навакольнага асяроддзя", а таксама прывесці рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з указаным Законам;

у месячны тэрмін забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі, ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць Закону Рэспублікі Беларусь "Аб ахове навакольнага асяроддзя";

у трохмесячны тэрмін вызначыць парадак ажыццяўлення маніторынгу навакольнага асяроддзя, а таксама змест і парадак вядзення дзяржаўных кадастраў прыродных рэсурсаў.

4. Прызнаць страціўшым сілу Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове прыроды ў Рэспубліцы Беларусь" ад 21 снежня 1961 г. (ЗЗ БССР, 1961 г., N 38, арт. 380).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

26 лістапада 1992г.
г.Мінск.
N 1983-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь" з дня яго прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

9 снежня 1992 г.
г.Мінск.
N 2030-XII

